Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№38(650)
20 верасня 2012 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Восенскі кірмаш.**



Шматлікіх садаводаў-аматараў вымушаюць спыніцца прадаўцы саджанцаў маліны, якая дае два ўраджаі на год.
Поўны літровы слоік буйных і сакавітых ягад у верасні – важкі аргумент!

*Фота Ул. Скрабатуна*















# На дарозе няма «чужых» дзяцей!

**У Віцебскай вобласці з пачатку года зафіксавана 31 ДТЗ, у выніку якіх 26 дзяцей былі траўміраваныя, 6 – загінулі.**

На першым месцы сярод адбытых «дзіцячых» аварый – наезды аўтамабіляў на дзяцей-пешаходаў. У выніку 16 здарэнняў загінулі 2 школьнікі, 14 – былі шпіталяваныя. На другім месцы – пацярпелыя дзеці-пасажыры: у 11-ці ДТЗ трое дзяцей атрымалі смяротныя траўмы, 9 – параненыя. На жаль, не абышлося і без трагедый з удзелам маленькіх веласіпедыстаў, трое з якіх былі траўміраваныя, а 1 – загінуў.

Каб ахаваць дзяцей ад няшчасных выпадкаў на дарозе і лішні раз прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму на тэрыторыі Віцебскай вобласці да 20 верасня праводзіцца МЕСЯЧНІК БЯСПЕКІ ДАРОЖНАГА РУХУ.

**Паважаныя дарослыя!** Паважаныя вадзіцелі! Памятайце, што вы ў адказе за сваіх дзяцей. Не забывайце нагадваць дзецям правілы бяспекі паводзін на вуліцах і дарогах. Будзьце самі сапраўдным прыкладам, і сумеснымі высілкамі мы навучым дзяцей правільна арыентавацца на дарозе, захаваем ім здароўе і жыццё.

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

## Глыбоцкі раён

# Таленты з Паазер’я

■ Станіслаў Раманчук

**Спрадвеку на паўночным захадзе Беларусі жыло і працавала шмат таленавітых людзей, з якіх багата выйшла выдатных майстроў літаратурнага слова.**

Гэта зноў пацвердзілася на нядаўнім свяце Дня беларускага пісьменства ў Глыбокім з сапраўдным духам беларускасці. І невыпадкова, калі на Галоўнай сцэне ўрачыстасцей узнагароджвалі пісьменнікаў, пераможцаў рэспубліканскага літаратурнага конкурса “Лепшы твор 2011” у трох з 10 намінацый лепшымі былі прызнаныя нашы землякі. Дыплом лаўрэата, прыгожую статуэтку “Залаты Купідон” і грашовую прэмію атрымаў у ліку іх педагог з Докшыц Фёдар Палачанін сярод драматургаў за свой зборнік п’ес “Зраненае сэрца”. У яго, дарэчы, нямала твораў і па краязнаўству Бярэзінскага краю, а спектаклі ставяць вядомыя драмтэатры. Ураджэнка Пастаўскага раёна, выпускніца Дунілавіцкай СШ, а цяпер новы малады галоўны рэдактар часопіса “Вожык” Юлія Зарэцкая была адзначана ў намінацыі “Гумар і сатыра” за сваю цікавую кнігу “Шчаслівыя людзі”. І нарэшце ў адной з самых прэстыжных намінацый “Паэзія” перамог віцебскі паэт Алег Салтук, які амаль 10 гадоў жыў у Глыбокім і працаваў тут уласным карэспандэнтам газеты “Віцебскі рабочы”. Пры ім плённа працавала літаб’яднанне “Далягляды”, пачыналі свой творчы шлях многія мясцовыя аўтары. Прыемна, што менавіта на Глыбоччыне падчас гэтых урачыстасцей нарадзілася новая добрая ідэя: 15 школьнікаў упершыню чыталі і нават спявалі на конкурсе “Жывая класіка” творы лепшых беларускіх паэтаў на матчынай мове.




## Аршанскі раён

# У падарунак свой буквар

■ Чэслаў Якубовіч

**Яшчэ некалькі гадоў назад, калі ў горадзе Орша праводзіўся чарговы нацыянальны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2008, яго ўдзельнікаў тут хацелі здівіць выпускам свайго друкаванага буквара для вучняў.**

Аднак тады да агульнай высновы наконт канцэпцыі выдання не прыйшлі, але ад гэтай ідэі не адмовіліся. Нарэшце сёлета на ўрачыстых лінейках у школах раёна хлопчыкам і дзяўчынкам, усім 1120 першакласнікам былі ўручаны незвычайныя кнігі – Аршанскі буквар. Такія падарункі ўсім спадабаліся, бо выданне зроблена з любоўю да родных мясцін, кожная літара даходлівай, простай мовай расказвае пра мінулае і сучаснасць Аршаншчыны. Па гэтай каляровай кнізе, якую склалі мясцовыя дзіцячыя пісьменнікі Галіна і Сяргей Трафімавы, сапраўды, можна навучыцца чытаць, які і па падручніку, выдадзеным у Оршы ў далёкім 1631 годзе ў друкарні Куцеінскага манастыра. Кніга для першакласнікаў XXI стагоддзя пабачыла свет у мясцовай друкарні першым накладам 3 тысячы асобнікаў, але, магчыма, будзе яшчэ перадрукоўвацца. 3 асаблівым стараннем ілюстрацыі да яе намалявалі 24 таленавітыя маладыя мастакі з дзіцячай школы мастацтваў №1. Юныя сааўтары вельмі стараліся, каб прыгожа атрымалася кожная літара малюнка, якая расказвае пра кожнага са знакамітых землякоў, пра помнікі архітэктуры і цудоўныя краявіды прыроды Аршаншчыны. Такі падручнік з цягам часу будзе беражліва захоўвацца ў кожнай сям’і, як рэліквія, яна з маленства выхоўвае пачуццё гордасці за родныя мясціны, за сваю маленькую Радзіму.

## Пастаўскі раён

# Ля разбітага карыта

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе, як і ў іншых рэгіёнах вобласці, уборка збожжа ў адным з буйнейшых па плошчы сельгасугоддзяў, Пастаўскім раёне, працягвалася больш месяца.**

І хоць валавыя намалоты зерня дасягнулі ў няпростых умовах надвор’я амаль 80 тысяч тон, хлебаробы не адчулі патрэбнай палёгкі. Як адзначалася на адной з вытворчых раённых нарад па пытаннях завяршэння рэканструкцыі ферм, павышэння надояў малака, у сярэднім на кожную гаспадарку цяпер прыходзіцца па 27 мільярдаў рублёў даўгоў. Каб выплочваць сваім працаўнікам заробкі, толькі дзве гаспадаркі краю “Хацілы-агра” і “Камайскі-агра” не бяруць банкаўскія крэдыты. Да гэтай вымушанай меры і выплат працэнтаў па крэдытах прыбягае і нават моцны калектыў “Навасёлкі-Лучай”, але ён узводзіць сучасны малочна-таварны комплекс з доярамі-робатамі коштам пад 100 млрд. рублёў. А вось астатнія 12 калгасаў па-ранейшаму знаходзяцца ў складаным фінансавым становішчы. Падчас сёлетняй пасяўной спыніла сваё існаванне гаротнае сельгаспрадпрыемства “Янчукі”. Па гэтай схеме, каб было меней праблем у сферы АПК, дзейнічалі і раней. Калі яшчэ10 гадоў назад у раёне працавалі 19 калгасаў, 2 саўгасы і 3 аграфірмы, плюс райаграпрамтэхніка, то 9 з іх спынілі сваё існаванне. Аднак, як і раней, у большасці гаспадарак вельмі нізкая прадуктыўнасць дойнага статку, малыя прывагі жывёлы, хоць і спецыялізіруюцца яны пераважна ў мясамалочнай жывёлагадоўлі.

# Лічба нумара

**3,7** – столькі мільёнаў тон малака, па дадзеных Мінсельгасхарча Беларусі, атрымалі айчынныя гаспадаркі сёлета за першыя 7 месяцаў года. І хоць звычайна восенню ўзровень надояў на фермах сезонна з-за пагаршэння стану зялёных лугоў зніжаецца, ёсць надзея, што ўдасца захаваць да канца года дасягнуты рост малочнай вытворчасці на 107 %. У мясной беларускай жывёлагадоўлі, уключаючы вытворчасць курынага мяса, у гэтым годзе ўжо перакрылі леташнія паказчыкі амаль на 10 % і не пазбеглі, праўда, пры гэтым росту цэн на мясапрадукты для сваіх спажыўцоў.

Аднак кіраўніцтва аграрнай галіны не хавае свайго аптымізму і разлічвае да канца снежня атрымаць ад экспарту беларускай сельгаспрадукцыі нават 5 млрд. долараў. Вядома, што зараз практычна ўсё наша мяса скупляе бліжэйшая суседка – Расія, дзе ўласных мясапрадуктаў выпрабляецца меней 40 %. Астатнюю свініну і ялавічыну расіяне вымушаны завозіць з усіх кантынентаў свету, каб пракарміцца. Беларускае кіраўніцтва раней агучыла смелыя планы да канца чарговай па ліку сваёй пяцігодкі - мець ад экспарту прадукцыі АПК нават 7 мільярдаў долараў.

Згодна такім планам і распрацаванай стратэгіі, у будучым 2013 годзе пагалоўе кароў на фермах беларускіх калгасаў павінна павялічыцца на болей чым 78 тысяч галоў. Ды і ставіць іх будуць на абноўленыя па стандартах быццам XXI стагоддзя малочныя комплексы з даільнымі заламі. У выніку, праз год вытворчасць малака на беларускіх фермах вырасце яшчэ на 250 тысяч тон. Калі так пойдзе і далей, то напрыканцы 2015 года, па разліках, колькасць БРЖ у Беларусі вырасце да ўнушальнай лічбы – 1,6 мільёна рагуль, а вытворчасць малака дасягне 10 мільёнаў тон.

Задумы такія , безумоўна, смелыя, але жыццё ўносіць свае карэктывы, а нядаўняе ўступленне Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю можа парушыць усе амбіцыйныя планы і рашэнні апошняга Усебеларускага сходу. Справа ў тым, што і на самых вытворцаў харчавання - расіян і на беларускіх пастаўшчыкоў мяса і малака будзе з кожным годам усё мацней ціснуць канкурэнцыя з боку замежных аграрных фірм і фермераў. Напрыклад, у першай палове года толькі Мексіка павялічыла на 71 % свае пастаўкі мяса рускім.

У расійскім урадзе існуюць апасенні, што разам з плюсамі для насельніцтва краіны ад уступлення ў СГА ад зніжэння цэн, зніжэння попыту на прывазныя тавары, мясцовыя асобныя галіны эканомікі РФ і яе аграрны сектар прайграюць у канкурэнтнай барацьбе. Дарэчы, сёлета летам многія расійскія фірмы спынілі закуп беларускага мяса, чакаючы, што ім будзе больш выгадна завезці больш таннае з Еўропы, Лацінскай Амерыкі, Аўстраліі і Новай Зеландыі. І гэта толькі кветачкі, ягадкі будуць пазней, бо і для Беларусі, як краіны-удзельніцы Мытнага саюза ўжо напрыканцы жніўня знізіліся мытныя тарыфы па першай тысячы тавараў з 11 тысяч такіх пазіцый.

Аднак, пакуль сёлета кан’юнктура на сусветным харчовым рынку з-за дэфіцыту ўраджаю спрыяльная для аграрнага сектара Беларусі. Валавы збор збожжа ў нас павінен перавысіць 9 млн. тон і застанецца зерне яшчэ на кармленне статку. Можна разлічваць і на дадатковыя даходы ад экспарту харчавання. Адзінае, што так будзе не ўвесь час, бо Расія ўзяла на сябе абавязацельствы знізіць аб’ёмы падтрымкі сваёй сельскай гаспадаркі ў будучым годзе да 9 млрд. долараў і мытныя тарыфы на мясную і малочную групы.

Нам трэба без раскачкі імкнуцца патрапіць на іншыя рынкі збыту харчавання. І першыя поспехі тут ёсць. Так, сёлета першыя буйныя партыі беларускіх малакапрадуктаў былі адгружаны ў Кітай, Японію і В’етнам. Аднак айчынным мяса-малочным холдынгам, якія пачынаюць ствараць, трэба рыхтавацца да жорсткай канкурэнцыі з пастаўшчыкамі аналагічнай прадукцыі з дзяржаў ЕС і іншых частак свету.

У гэтай барацьбе, папярэджвае прэм’ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч, у нас ёсць запас толькі 3-5 гадоў, каб дасягнуць сусветнага ўзроўню эфектыўнасці вытворчасці харчавання і замацавацца і на іншых рынках збыту, апроч расійскага. Дарэчы, акрамя аграрыяў моцны ціск з боку замежных вытворцаў неўзабаве адчуюць нашы машынабудаўнікі, прадпрыемствы лёгкай і харчовай прамысловасці, тэлезаводы. Хто гэтага не зразумее з беларускіх упраўленцаў, гарантавана прайграе. Пераходны перыяд хутка праляцідь і беларусам таксама прыйдзецца ўшчыльную прайсці выпрабаванне сусветным рынкам, бо і другі наш партнёр Казахстан у 2013 годзе можа ўступіць у СГА, куды цяпер уваходзяць 156 дзяржаў-членаў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 20.09.12 | | | | Пятніца 21.09.12 | | | | Субота 22.09.12 | | | | Нядзеля 23.09.12 | | | | Пнд.24.09.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +11 | +12 | +8 | +7 | +10 | +15 | +9 | +7 | +10 | +15 | +10 | +7 | +8 | +10 | +7 | +6 | +8 | +12 |
| Ціск | 744 | 746 | 747 | 748 | 749 | 749 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 746 | 744 | 743 | 743 | 745 | 746 | 746 | 747 |
| Вільготнасць | 98 | 93 | 80 | 92 | 98 | 92 | 44 | 81 | 88 | 82 | 47 | 83 | 97 | 95 | 81 | 93 | 98 | 94 | 68 |
| Вецер м/сек | 4 С-З | 5 С-З | 2 С-З | 3 С | 2 С | 4 С-З | 2 З | 1 Ю-З | 1 Ю-З | 1 Ю | 3 Ю | 2 В | 1 В | 4 В | 5 С-В | 6 С | 6 С | 7 С | 7 С |

## Дзень за днём

**Заробкі ўжо больш 60 % працуючых беларусаў менш сярэдніх па Беларусі, якія ў пачатку восені дасягнулі без выплат падаткаў 474 $. Пасля ўступлення Расіі ў СГА ўскладніліся ўмовы экспартных паставак беларускіх грузавых аўтамабіляў. Сярод дзяржаў СНД пасля распаду СССР толькі ў Беларусі прыбавілася колькасць насельніцтва ў гарадах, у нас узровень урбанізацыі такі , як у Швейцарыі і Чэхіі. У Міністэрстве адукацыі РБ разглядаюць магчымасці павелічэння колькасці ўрокаў у школах па асобных прадметах, бо дзеці дрэнна ведаюць матэматыку, фізіку. Бясплатны праезд на транспарце захаваўся толькі для сталічных школьнікаў, такія льготы студэнтам не вернуць.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Па дадзеных агенцтва ААН па справах бежанцаў, у суседнія дзяржавы ўцяклі ад вайны больш 200 тысяч сірыйцаў, яшчэ 1,5 млн. перамясціліся ў больш спакойныя месцы.

**ЗША.** Па дадзеных апытанняў і палітолагаў, розніца на выбарах прэзідэнта паміж кандыдатамі будзе мінімальная, але болей шанцаў застацца ў Белым доме ў Б. Абамы.

**Венесуэла.** Хворы на рак Уга Чавес паабяцаў прыхільнікам на мітынгу правесці самыя “дэмакратычныя выбары ў свеце” і набраць на іх 70 % галасоў у сваю падтрымку.

**Кыргыстан.** МЗС краіны адклікаў свайго пасла з Беларусі Э. Асаналіева ў сувязі са знаходжаннем на яе тэрыторыі шэрагу злачынцаў клана Бакіевых, якіх яна не выдае.

**Нарвегія.** Самым “дарагім” вязнем у гісторыі краіны стаў А. Брэйвік, яго ўтрыманне ў турме абыдзецца дзяржбюджэту 850 тысяч долараў штогод, у 15 разоў больш звычайнага зэка.

**Германія.** На вуліцах Дрэздэна з’явіліся ўнікальныя, самыя вялікія ў свеце гарадскія аўтобусы даўжынёй 30 метраў на 256 месц для пасажыраў, яны заменяць дарагія трамваі.

**Украіна.** Калегія суддзяў у Кіеве не задаволіла касацыйную скаргу экспрэм’ера Юліі Цімашэнкі на адмену прысуда – 7 гадоў турмы за падпісанне газавых кантрактаў з РФ.

**ЗША.** Карпарацыя Apple выйграла на сваю карысць у суме больш 1 млрд. U$D суд з канкурэнтам на рынку, карэйскім гігантам Samsung за скапіраваны дызайн айфонаў.

**Польшча.** IV з’езд “Паланіі” і палякаў замежжа прыняў заяву пра пераслед у Беларусі сяброў непрызнанага Саюза палякаў у РБ, пра іх палітычны пераслед і дыскрымінацыі.

**Эквадор.** Суд краіны адмовіў Беларусі ў выдачы і экстрадыцыі на радзіму беларускага грамадзяніна, экс-міліцыянера А. Баранкова, які папрасіў тут палітычнага прытулку.

**Венесуэла.** Краіна перажыла 3-дзённую жалобу пасля выбуху на нафтаперапрацоўчым заводзе на паўвостраве Парагуана і гібелі больш 40 чалавек, з іх 19 вайскоўцаў аховы НПЗ

**Літва.** Усе першакласнікі школ краіны атрымалі ў падарунак ад фірмы Tele-2 па мабільнаму тэлефону Nokia і стартаваму пакету для размоў, падручнікі там бясплатныя.

**КНДР.** Па ініцыятыве новага маладога правадыра Кім Чэн Ына адбыўся ў сталіцы Пхеньяне першы канцэрт заходняй музыкі, за слуханне якой раней саджалі ў турмы.

**Расія.** Лідар КПРФ Г. Зюганаў паабяцаў, што камуністы не дапусцяць перапахавання з маўзалея Леніна і прыраўняў яго цела да мошчаў святых у Кіева-Пячэрскай лаўры.

**Эстонія.** Мэрыя Таліна з мэтай паляпшэння экалогіі сталіцы зрабіла бясплатным для гараджан праезд у грамадскім транспарце, для турыстаў адна паездка застанецца 1 еўра.

# «Савецкую Беларусь», «Народную газету», «Рэспубліку», «Беларускую ніву» і «Знамя юнацтва» аб'ядналюць у адну газету



■ nn.by

**Грамадска-палітычны выдавецкі дом у Беларусі пачне працаваць з 2013 года. Аб гэтым сёння на сустрэчы з калектывам пружанскай газеты «Раённыя будні» паведаміў міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі.**

Міністр адзначыў, што ў Беларусі практычна ўтвораны выдавецкі дом «Звязда» культуралагічнай накіраванасці. Адпаведны загад падпісаны ўчора. У выдавецкі дом ўвайшлі рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «ЛіМ», газета «Літаратура і Мастацтва», часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Вожык», перадае БЕЛТА.

Паралельна вядзецца праца па стварэнні грамадска-палітычнага выдавецкага дома. У гэты холдынг ўвойдуць 5 асноўных рэспубліканскіх газет: «Савецкая Беларусь», «Народная газета», «Рэспубліка», «Беларуская ніва» і «Знамя юнацтва». Што тычыцца назвы грамадска-палітычнага выдавецкага дома і газеты, якая будзе яго прадстаўляць, то, па словах міністра, вырашана, што гэта не будзе «Савецкая Беларусь». У цяперашні час пытанне назвы прапрацоўваецца.

Што тычыцца журналістаў газет, якія ўвойдуць у холдынг, міністр адзначыў, што рэарганізацыя не пацягне за сабой скарачэння творчых кадраў. Па сутнасці, гэта будзе адна вялікая галоўная газета краіны.

«У нас сёння дастаткова шмат галоўных газет. У той жа час Беларусь – краіна невялікая, і ў нас не так шмат навін і падзей, таму рэспубліканскія газеты шмат у чым дублююць адзін аднаго, пішуць пра адно і тое ж. Пры стварэнні адзінага выдавецкага дома з'явіцца магчымасць манеўру рэдакцыйнай палітыкі. І самае галоўнае: у краіне з'явіцца адзіны дзяржаўны друкаваны орган – сур'ёзны, вялікі, аўтарытэтны», – сказаў Алег Праляскоўскі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня Цэнтрвыбаркама Л. Ярмошына спрагназавала, што на прадстаўчых выбарах у парламент яўка выбаршчыкаў складзе ў Мінску 50 %, у правінцыі колькасць выбаршчыкаш дасягне 70 %.

**Светлагорск.** Цікавасць гараджан выклікаў на агітацыйных стэндах “Выбары-2012” невядомы пакуль на плакатах кандыдат у дэпутаты папугай Яшка, які не ўмее маніць.

**Гродна.** Адзін з зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты ад партыі “Справядлівы свет” зняўся з выбараў з-за моцнага ціску на родных, у яго акрузе ідзе адзін з дзеячаў КДБ.

**Магілёў.** Замест крытычнага выступлення кандыдата ў дэпутаты Уладзіміра Шанцава на абласным радыё пусцілі ў эфір знакаміты паланез Агінскага “Развітанне з радзімай”.

**Давід-Гарадок.** Вечарам у горадзе на 39-гадовага жыхара Кобрынскага раёна напалі двое вучняў ва ўзросце 13 і 15 гадоў, збілі і сілай забралі 600 тысяч рублёў, банкаўскую картку.

**Бабруйск.** Інвалід-калясачнік Сяргей Мацкевіч адсудзіў у дарожнікаў 2 мільёна рублёў маральнай шкоды, калі перакуліўся і ўпаў на дрэнна зробленым пешаходным пераходзе.

**Гродна.** У горадзе адбыўся кангрэс каталіцкіх СМІ РБ, РФ, Польшчы, Украіны, Латвіі, Італіі з удзелам мітрапаліта Т. Кандрусевіча, сусветна вядомага рэжысёра К. Занусі.

**Брэст.** З гадзінным спазненнем прыбыў у сталіцу Польшчы цягнік Мінск-Варшава пасля затрымання тут начальніка поезда, з вагона знялі праваднію і 10 пасажыраў без білетаў.

**Слонім.** Работнікам “Белтрансгазу” кампанія “Газпрам” падняла, як і абяцала ў 3 разы зарплату, па выніках года яна дасягне ў сярэднім амаль тысячы даляраў, як і ў Расіі.

**Мінск.** Катаючыся днём на лыжаролернай трасе ў цэнтры сталіцы, упаў, ударыўся на хуткасці галавой аб асфальт і памёр ад чэрапна-мазгавой траўмы 41-гадовы мужчына.

**Добруш.** Падчас урагану з ліўнем шыферам з даху былі забіты 2 быкі на ферме, у раёне моцна пашкоджана больш 30 км ЛЭП, разбураны дахі соцень жылых дамоў 9 вёсак.

**Мінск.** У жанры лірычнай камедыі кінастудыя “Беларусьфільм” плануе зняць працяг вядомай кінакамедыі “Белыя росы-2” і пачала працу над сцэнарыем кінастужкі.

**Кобрын.** Цудам не пацярпеў 26-гадовы хлопец, які на падпітку заснуў за рулём аўто, якое ён узяў у брата без дазволу. Ён перакуліўся ў кювеце і спаў нават да прыбыцця ДАІ.

**Гомель.** Толькі з дапамогай ратавальнікаў МНС удалося злавіць павукаптушкаеда, які ўцёк з акварыума ў доме, дзе яго трымалі, і напужаў гаспадароў з маленькім дзіцём.

**Мінск.** Услед за турнірам памяці Руслана Салея на Маскоўскіх могілках сталіцы адкрылі помнік легендарнаму хакеісту, капітану зборнай РБ, які загінуў летась у авіякатастрофе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У бліжэйшыя 3 гады вобласць, паабяцаў яе глава А. Косінец, патраціць 1,05 трлн. рублёў на закуп спортінвентару для школ, ПТВ, развіццё матэрыяльнай базу спорту.

**Браслаў.** Абноўленая аўтастанцыя райцэнтра з новымі банкаўскімі тэрміналамі стала абслугоўваць пасажыраў праз Інтэрнет, штодзень больш 60 рэйсаў, з якіх 6 міжнародных.

**Гарадок.** Праз 5 гадзін прачэсвання лесу пошукавая група міліцыі і райаддзела МНС знайшлі ў лясным гушчары за вёскай Вярэчча маці з сынам, якія заблудзіліся ў ягадах.

**Глыбокае.** На закрытым выязным пасяджэнні ў калоніі суд прызнаў лідара “Маладога фронта” З. Дашкевіча вінаватым у непадпарадкаванні і дабавіў 1 год пазбаўлення волі.

**Лужасна.** Па невядомай прычыне загарэўся пакой інтэрната №1 каледжа ветакадэміі, ніхто з эвакуіраваных 50 чалавек не пацярпеў, як і на пажары ў інтэрнаце ў Барані.

**Полацк.** Фірма “Прыгарадбудінвест” рашыла пабудаваць у горадзе адзін са сваіх буйных шматфункцыянальных гіпермаркетаў з серыі падобных аб’ектаў па ўсёй Беларусі.

**Орша.** З жалем давconfigurationдаліся тут аб смерці свайго знакамітага земляка, народнага артыста Беларусі, спевака Якава Навуменкі, якога забілі ў Крыме падчас водпуску на 54-м годзе.

**Ушачы.** За незаконны адстрэл лася з эмбрыёнам раённы суд пакараў двайх браканьераў штрафам на суму больш за 13 мільёнаў рублёў кожнага і канфіскаваў іх паляўнічыя стрэльбы.

**Наваполацк.** Падчас дабрачыннай акцыі “Давай дапаможам” валанцёры арганізацыі па абароне жывёлін перадалі ў добрыя рукі 32 катоў і сабак, у якіх не стала гаспадароў.

**Паставы.** У мясцовым прафкаледжы пачалі ўпершыню рыхтаваць вадзіцеляў-дальнабойшчыкаў і тэхнікаў-аўтамеханікаў, тэхнікаў-будаўнікоў, газаэлектразваршчыкаў.

**Чашнікі.** З незакрытай лазні пенсіянеркі ў райцэнтры двое беспрацоўных злодзеяў ва ўзросце 31 і 33 гадоў укралі металічную бочку і 2 бідоны. Частку скрадзенага міліцыя ўжо вярнула.

**Шаркаўшчына.** У двары Лужкоўскай СШ з’явіўся незвычайны помнік у выглядзе вялікай кнігі на пастаменце, якую зрабіў у Год кнігі школьны настаўнік працы Анатоль Крыўко.

**Віцебск.** У абласной філармоніі адзначылі 55-гадовы юбілей алімпійскага чэмпіёна па боксе Вячаслава Яноўскага, ён паабяцаў хутка вярнуцца дамоў з РФ, дзе працуе.

**Лепель.** На адным з астравоў Лепельскага возера з’явіліся ўпершыню ў Беларусі на сцежках драўляныя падземныя пераходы-масткі для бяспечнай міграцыі … мурашак.

**Наваполацк.** Кіраўніцтва футбольнага клуба “Нафтан” не прыняло адстаўку галоўнага трэнера Ігара Кавалевіча па ўласным жаданні, яго падтрымала і ўся каманда.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Узнагароджаныя пераможцы кінафэсту «Magnificat-2012»

**У Глыбокім завяршыўся VIII Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat-2012».**

Сёлета ў конкурсе прыняла ўдзел рэкордная колькасць кінастужак з Беларусі – 13. Дэбютантамі фестывалю сталі Азербайджан і Бельгія.

«Сёлетні фестываль з упэўненасцю можна назваць найлепшым, – прызнаецца дырэктар фестывалю Юрый Гарулёў. – На фестываль былі пададзены выдатныя прафесійныя стужкі, якія па праву атрымалі прызнанне журы.

Асаблівую падзяку я хацеў бы выказаць беларускім кінематаграфістам, якія ў гэтым годзе ў параўнанні з усімі папярэднімі фестывалямі прадставілі найбольшую колькасць стужак. Парадавала і тое, што шмат рэжысёраў змаглі сёлета прысутнічаць на фестывалі, прадстаўляючы свой фільм непасрэдна».

З меркаваннем Юрыя Гарулёва пагаджаецца і старшыня журы пісьменніца Крыстына Лялько:

«Сапраўднай адметнасцю сёлетняга фестывалю сталі фільмы з моцным хрысціянскім і духоўным складнікам, з акцэнтам на экуменізм; стужкі пра ахвярных пастыраў, сапраўдных пакутнікаў за веру; фільмы, якія ўздымалі сур'ёзныя праблемы, над якімі мог паразважаць глядач».

Гран-пры фестывалю «Magnificat-2012» атрымаў дакументальны фільм «Драўляны народ» («Беларусьфільм»). Аўтар сцэнарыя – Віктар Аслюк. Фільм распавядае пра адзінага жыхара вёскі ў Белавежскай пушчы Мікалая. Мужчына «ўваскрасіў» сваіх аднавяскоўцаў, зрабіўшы сотні драўляных фігурак і ўвасобіўшы ў іх чалавечае жыццё.

Прыз за лепшы дакументальны фільм прысудзілі стужцы «І без аднаго дрэва лес застаецца лесам» («KATARAMAN», Польшча). Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Дагмара Джазга.

Фільм распавядае пра трагічны лёс святара Яна Махі, заснавальніка падпольнай арганізацыі ў Руда Шлёнску. За гэтыя дзеянні кс. Ян быў арыштаваны і ў снежні 1942 года гільяцінаваны. На дзень смерці яму было толькі 28 гадоў. Фільм распавядае гісторыю дагэтуль невядомую, і да таго ж пра саму гільяціну, пад лязом якой ў Катавіцах загінула 500 чалавек.



Фігуры Марыі з малым Ісусам - афіцыйны сімвал і ўзнагарода хрысціянскага кінафэсту «Магніфікат». Фота signis.by

«Лепшай тэлевізійнай праграмай» была названа праца «Эпітафія могілкам» («Коллекция Иннокентия Иванова», Расія) рэжысёраў Інакенція Іванова і Марыяны Біруковай.

Фільм пра знішчаныя могілкі і могільнікавыя храмы Санкт-Пецярбурга. Розныя былі іх лёсы: адны «памерлі» сваёй смерцю, іншыя зруйнаваны, па-варварску і наўмысна. Што цяпер знаходзіцца на месцах былых могілак, як знішчаюць людскую памяць?

Лепшым анімацыйным фільмам прызналі фільм «Птах» рэжысёра Аляксандра Ленкіна («Беларусьфільм»). Аўтары сцэнарыя – Аляксандр Ленкін і Сяргей Кацэр.

Прыз глядацкіх сімпатый атрымаў дакументальны фільм рэжысёра Вольгі Дашук «Кінааматар. Восеньскі сон» («Беларусьфільм»).

Сюжэт фільма. Анатоль – найстарэйшы кінааматар Беларусі, пяцьдзясят гадоў стварае дакументальныя фільмы. Зараз яму ўжо 81, і здымае ён свой апошні фільм.

Трэйлеры і апісанні ўсіх фільмаў фэста «Магніфікат» з 2005-2012 года можна знайсці на афіцыйным сайце фестывалю.

*Крыніца: Ілля Лапато, Catholic.by; Signis.by*

# Як там у Клецку? А ў Глыбокім?




**Клецк, шыльды, гістарычныя назвы. © Фота з блога Аксаны Спрынчан**




**Да 1842 года існавала два паселішчы: горад Глыбокае і мястэчка Глыбокае. Кожнае паселішча мела свае назвы вуліцаў. У мястэчку Глыбокае сённяшні пляц 17 Верасня меў назоў – пляц Рынак. Вуліца, якая ішла паўз Рынак (ад цяперашняга Белаграпрамбанка міма кавярні «Неон» у бок вул. Горкага), называлася Вялікая.**




**Варыянт шыльды на дамах па вуліцы Леніна (ад скрыжавання з вул. Маскоўскай у бок пл. 17 Верасня). Альгердаў шлях – старажытная дарога з Вільні на Полацк. Альгердаў шлях быў заўсёды, нават тады, калі і Глыбокага магло й не быць.**




**Габрыэль Нарутовіч быў першым прэзідэнтам адроджанай польскай дзяржавы, які неўзабаве пасля абрання загінуў ад кулі кілера. – Добры быў прэзідэнт, але дужа левы, таму і забілі,– казаў аўтару гэтых радкоў спадар Скрага, ветэран Першай сусветнай вайны.**




**Натуральна, што назвы часоў акупацыі (Берлінер штрасэ і Фрыдрых штрасэ) увекавечваць не трэба. Хай гэта будзе ўсяго толькі прыкладам, як з прыходам кожнай новай улады – змяняўся і назоў вуліцы. Ды й прынцып перайменавання ва ўсіх быў аднолькавы...**




**Класічная савецкая методыка перайменавання вуліцаў... Быў ў Кёнігсбергу Гітлер плац, то ў Калінінградзе цяпер, адпаведна, – пл. Леніна. Так і тут, у Глыбокім: пры паляках – вул. Легіянова (ад слова «легіён»), пры саветах – Чырвонаармейская. Кісялёўка – дарэвалюцыйная назва.**




**Варыянт шыльды на дамах па вуліцы Леніна (ад скрыжавання з вул. Маскоўскай у бок МКК). У 1960-ыя гг гэтую вуліцу (К.Маркса) аб'ядналі ў адну даўгую – вул. Леніна.**




**Чамусьці палякам не спадабаўся дарэвалюцыйны (з часоў ВКЛ) назоў вуліцы – Дворная. Яны назвалі – Radziwiłłowska. Але, тым дваром, хіба што, валодамі тыя ж Радзівілы, потым Вітгенштэйны, Масальскія...**
**Ну, і навошта ж іх млын разбурылі на беразе возера Кагальнае???**




**Ул. Скрабатун**

**Напісаць гэты матэрыял прымусіла адна акалічнасць... Справа ў тым, што да Дня беларускага пісьменства і друку былі шматлікія прапановы грамадзянаў аб вяртанні часткі вуліцы Леніна (ад райвыканкама да пл. 17 верасня) яе даўняй і гістарычнай назвы – Замкавая, якую яна насіла некалькі стагоддзяў. Іншая ж частка цяперашняй вуліцы Леніна да 1939 г., называлася – Віленская.**

Я і сам хадзіў у райвыканкам з такой прапановай... Ды й улады, здаецца, былі не супраць, пагаджаліся. Вяртанне назову павышала б «рэйтынг» нашага горада ў вачах шматлікіх турыстаў і гасцей горада. Нават такая, здавалася б дробная акалічнасць, дапамагала б лабіраваць інтарэсы горада ў Мінску. Зразумела, ад таго замка Радзівілаў, бадай што, нічога не засталося. Апошнюю пабудову ад таго замка знеслі ў 2005 годзе і ўзвялі краму «Эліс». Праўда, А.С. Калбасіч, даўні кіраўнік ГлыбокаеРайгаз, сцвярджаў, што да сённяшняга дня пад офісам месціцца абшырны падвал замкавага тыпу.

Але ў нас ёсць перабудаваны пад кармеліцкі кляштар колішні замак Корсакаў. Ад усходу да праваслаўнай царквы (тыльны фасад) і сёння прымыкае г.зв. алькеж. Меркавана гэта і ёсць адна з частак замка Корсакаў.

Аднак, як бы там не было, Прэзідэнт абяцаў аднавіць на Беларусі ўсе замкі. Вось зараз аднаўляецца ружанскі замак, фактычна адноўлены мірскі і нясвіжскі замкі.

Няхай бы хто падкінуў кіраўніку Беларусі «нашыя малітвы аб дапамозе»! Трэба ж неяк кансерваваць ці рэстаўраваць гэтую руіну, якая знаходзіцца ля царквы. Гэта ж – помнік 2-й катэгорыі. Вышэй – толькі пад эгідай ЮНЕСКА! Але хто гэта зробіць? Васіль Хрол, пэўна, даўно ўжо забыўся пра Глыбокае...

Чаму ўсё ж не вярнулі частцы вуліцы Леніна назоў – Замкавая?

– Няма грошай! – сказалі. І мне патлумачылі – чаму?

Перайменаванне вуліцы – гэта не толькі выдаткі на замену шыльдаў, але й замену прапіскі ў пашпартах, замену пячатак на прадпрыемствах і ўстановах (МКК, камбікармовы завод, хлебакамбінат...). А ў гэтых прадпрыемстваў – гадлёвыя дамы «па ўсяму былому саюзу». І там ўсё трэба мяняць: пячаткі і фірмовыя бланкі, цэтлікі на прадукцыі...

Хоць цалкам мяне і не пераканалі, але логіка ў гэтым ёсць.

Але ж былі і ёсць да цяперашняга часу прапановы – на гістарычных (старадаўніх) вуліцах прымацаваць шыльды з усімі яе колішнімі назовамі. Не трэба на кожным доме вуліцы, але: у пачатку, пасярод, і ў канцы.

Я думаю, што, напрыклад, спадар Захарчонак, гаспадар «Неона» і сам, сваім коштам, па ўласнай ініцыятыве, павесіў бы на сваёй кавярні шыльду – «вуліца Вялікая».

А што ў такім разе патрэбна ад уладаў? Прыняць адпаведную пастанову, зацвердзіць стандарт шыльды (каб былі ўсе яны аднолькавага памеру і колеравай гамы).

Вось мы гаворым і гаворым... А ў Клецку[1] нібы падслухалі глыбоцкую ідэю, узялі – ды зрабілі, і без усялякіх Дажынак, і Дзён пісьменства...

Зрэшты, аўтар гэтых радкоў, не збіраецца быць строгім крытыкам. Алея славутых землякоў, якая паўстала да Дня беларускага пісьменства і друку, безумоўна, цяпер стане эталонам для іншых гарадоў Беларусі. І што тут казаць, нават зацятыя крытыканы з усяе Беларусі зрабілі цяпер перадышку. А журналіст Радыё Рацыя, які мне патэлефанаваў з Польшчы, сказаў: «Неверагодна! Такога, нават, у Полацку няма!»

**Заўвагі:** нумары дамоў на шыльдах пададзеныя адвольна.

[1] **Клецк** – горад у Мінскай вобласці Беларусі, цэнтр Клецкага раёна. Паўстаў Клецк на месцы феадальнага замка на высокім беразе ракі Лань. Пачаткам біяграфіі лічаць 1127 год, горад ужо быў цэнтрам княства ў складзе Турава-Пінскай зямлі. У некаторых крыніцах горад згадваецца як сталіца племя дрыгавічаў. Не бясследна для Клецка прайшлі нашэсці татараў і шведаў.

У 1921г паводле Рыжскай мірнай дамовы г. Клецк увайшоў у склад Польшчы. У1939 г увайшоў у склад БССР.

# Аповяд пра бацьку

**Я чытач Вашай газеты з самага яе пачатку. Вельмі яна цікавая. Навіны, гісторыя, палітыка, аб'явы – усё гэта вельмі добра. Але, на маю думку, трэба, каб з'явілася рубрыка пра лёсы людзей. Я думаю, ніхто раўнадушным не застанецца.**

■ **Рыгор Шымко**

Дык вось пра бацьку. Майму Канстанціну Усцінавічу Шымко 20 верасня спаўняецца 80 гадоў. Восемдзесят, як адзін дзень. Я, яго сын, раскажу, што ведаю, і большасць з гэтага са слоў маці. Бо бацьку цяжка ўспамінаць мінулае, ды і не хочацца. Нарадзіўся ён у такім далёкім 1932 годзе. Рана застаўся без маці, а ў 14 год не стала і бацькі. Сірата. У той час жылі бедна, а ён наогул без нічога. Далей рос па радні. Хтосьці чамусьці вучыў. Навучыўся правіць боты. А вось сталярная і цяслярная справы ў ім былі закладзены з нараджэння. У дзяцінстве ножыкам выстругаў-"зрубіў" цацачны домік. Усё там было як сапраўднае: і дзверы, і вокны. Вось такія былі гульні. Там, дзе жыў, дапамаў па гаспадарцы. Потым вайна, да ўсіх нягод прыбавіўся яшчэ і страх. Там, дзе жыў у радні, не было солі. А дзе яе ўзяць? У немцаў. Назбіраўшы яек, пайшоў у Беразвечча. Немцы яйкі ўзялі, а яму на плечы ўзгрузілі амаль паўмяха солі. Самі стаялі і рагаталі з таго, як гэты 12-гадовы хлапчук яе панясе. Гэты рогат ён на ўсё жыццё запомніў. А бацька не разгінаючыся, не аглядваючыся, на адным дыханні данёс яе аж да самага Сапеліна. І так гараваў да 1952 года. У гэтым годзе прызвалі ў Армію, і гэта было шчасце. Хоць муштравалі, ганялі, але затое тры разы на дзень кармілі. Большасць яго равеснікаў трапляла служыць у Сібір, Далёкі Усход, Запалярны Круг. Бацьку пашчасціла служыць пад Масквой. Служыў добра, з сваёй пачатковай адукацыяй даслужыўся да старшага сяржанта. Прыйшоў час вяртацца дадому. Дзядзька Барнась сказаў, што я цябе гадаваў да Арміі, а цяпер жыві сам. Ужо быў калгас. Раз добрыя рукі – і пайшоў на будоўлю. У хуткім часе ажаніўся з маёй маці, Калетай Віктараўнай. Пачалі паціху будаваць свой дом, ужо сапраўдны. Працаваў у паляводстве памочнікам брыгадзіра, адзін час працаваў на млыне. Але ўсё здалёк пагладаў на трактары. І вось у 1966 годзе рашыўся, пайшоў вучыцца на трактарыста. Калі браў накіраванне ў старшыні калгаса, тады быў А.Д.Кот, то той сказаў: "З цябе атрымаецца добры трактарыст". І не памыліўся. Не ад якой працы не аднекваўся, не цураўся. У пачатку 70-х яму далі агрэгат для скошвання зялёнай масы. У народзе яго празвалі "гуся" з-за чырвонага транспарцёра. І ён адзін з вясны і амаль да белых мух забяспечваў усе фермы калгаса кармамі. У канцы сямідзясятых у калгас прыйшоў камбайн КСК-100. Па тых часах вельмі складаны і недапрацаваны. Доўга не разважалі, каму даверыць. Канечне ж, Канстанціну Усцінавічу. Цярпенне, вопыт – і ўсё атрымалася. Дарэчы, трактары, якія ў яго былі, ні іх, ні рухавікі ў капіталку не аддаваў. Рабіў ўсё сам. Перад тэхаглядам трэба было трохі лепш памыць - і быў як новы.

**Немцы яйкі ўзялі, а яму на плечы ўзгрузілі амаль паўмяха солі. Самі стаялі і рагаталі з таго, як гэты 12-гадовы хлапчук яе панясе. Гэты рогат ён на ўсё жыццё запомніў.**

Гэта на працы - а дома. А дома ўсё змайстраваў сам: вокны, дзверы - і ўсё роўна, шчытна, акуратна. У ганку тры акны змайстраваў сонейкам. Нідзе такіх не бачыў. З 1992 года на пенсіі. Аднаго не разумею: так працаваў, а ніводнага ордэна, медаля. Значкі, граматы, дыпломы - калі ласка. Напэўна за тое, што не быў камуністам. Але самай галоўнай узнагародай бацька лічыць тое, што калгас яму прадаў няспраўны трактар Т-25. Гэта сапраўды яго стыхія. З ранняй вясны і да позняй восені завіхаецца каля свайго "пыхціка". Дапамагае суседзям, адзінокім кабетам. За што яму вельмі ўдзячныя. Вельмі сумна, што памерла наша маці. Вельмі разумная была жанчына. Бацька наш не выглядае на свае гады, а значна маладзей. Я думаю, што жыццё сваё не прапіў, не прагайдамачыў. Ажаніў унука, унучку. На вяселлі можа заспяваць, мае добры голас, станчыць польку з маладзіцай, нямнога, але гулькнуць чарку-другую. Але калі прыгледзіцца, то на вачах час ад часу з'яўляюцца слёзы.

**Так працаваў, а ніводнага ордэна, медаля. Значкі, граматы, дыпломы - калі ласка. Напэўна за тое, што не быў камуністам.**

**Дзякуй табе за ўсё. Зусім хутка і нас з братам да пенсіі дагадуеш, як і патрэбна сапраўднаму бацьку.**

**Ад рэдакцыі.** У свой час Канстанцін Усцінавіч Шымко вельмі дапамог нашай газеце. А менавіта ў пачатку 2005 года, калі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, з Мінска, па незразумелай прычыне, была дадзеная каманда глыбоцкай і пастаўскай поштам разарваць з намі дамову на падпіску. Нам прывезлі спісы падпісчыкаў і паклалі на стол. Выбачайце, паступіла каманда зверху! І рабі, што хочаш, - хоць плач. Людзі выпісалі газету, заплацілі грошы, а яны яе не атрымаюць... Паехалі з гэтымі спісамі ў Удзела, Дзеркаўшчыну, Мосар..., шукаць валанцёраў па распаўсюду. Знайшлі ў кожнай вёсцы. А ў Лазічах і шукаць не трэба было. Сын Канстанціна Усцінавіча і аўтар гэтага матэрыялу, сказаў: «Едзьце да майго бацькі – не адмовіць. Дапаможа! Ён чалавек вельмі адказны!» І дапамог, паўгода насіў па адрасах нашую газету ў Лазічах. Пакуль па таму спісу не знік апошні падпісчык. ***Дзякуй Вам вялікі, Канстанцін Усцінавіч!***



Мой бацька – К. У. Шымко. Нашы дні.



Мой бацька К. У. Шымко ў войску. Пачатак 1950-х гг.



Бацькі: маці – Калета Віктараўна і бацька – Канстанцін Усцінавіч.



Уборка зялёнай масы ў калгасе "За Радзіму". Экіпаж майго бацькі К. У. Шымко, які сам знаходзіцца ў кабіне МТЗ-50. Гэтае прыстасаванне па ўборцы зялёнай масы звалі ў народзе «гусём».

## Каментар рэдакцыі

**Рыгор Шымко**:

**«На маю думку, трэба, каб з'явілася рубрыка пра лёсы людзей. Я думаю, ніхто раўнадушным не застанецца».**

**Ад рэдакцыі**. Зразумела, такую ідэю мы падтрымліваем. Звычайна, падобная рубрыка называецца «Жывая гісторыя». Досыць папулярная і запатрабаваная. Скажам больш: зараз шмат маладых журналістаў, гісторыкаў, архівістаў прыязджае з Мінска і на нашую Глыбоччыну з дыктафонамі і відэакамерамі, запісвае лёсы нашых людзей. Гэта – жывая гісторыя!

Са свайго боку мы прапаноўваем нашым чытачам адгукнуцца на прапанову Рыгора Шымко. Дасылайце ў нашую газету аповяды пра лёсы сваіх родных, суседзяў, вашых знаёмых. Добра было б, каб на гэтую прапанову адгукнуліся і школьнікі. Паразмаўляйце са сваімі бабулямі і дзядулямі, магчыма іх лёс варты Вашага напісання.

Чакаем Вашых допісаў!

**Неяк зайшла дыскусія пра зёлкі аўтара гэтых радкоў з нашай сталай чытачкай, пенсіянеркай спадарыняй Сутула з вуліцы Чапаева...**
**– Трэба ягель і ісландскі мох піць,– і жартам і ўсур'ёз кажу я. – Мы ж пра тое пісалі ў «ВГ».**
**– Не ведаю нічога пра ягель, а вось чай з верасу трэба піць!– тлумачыць нашая чытачка. – Ой! Як ён амалоджвае арганізм! Чысціць кроў, печань, ныркі, выводзіць камні з нырак.**
**– Ніфіга сабе! А я ж пра тое не ведаў! Паеду ў пушчу і сабе, і Вам прывязу.**
**Папіў я чайку з верасу... Праз некалькі хвілінаў так жраць захацелася! (Перапрашаю за жаргон!) Неўцярпёж, а ж у жываце забурчэла...**

■ **Ул. Скрабатун**

## Зёлкі нашага краю
# Верас

Верас - род раслін сямейства верасовых. Лекавай сыравінай служыць лісце і кветкі расліны. Збіраюць іх падчас красавання, зрываючы верхавіны парасткаў з кветкамі. Сушку праводзяць у цені пад падстрэшкам, раскладваючы на паперы ці тканіне тонкім пластом і перыядычна перамешваючы. Захоўваецца такая сыравіна ў зачыненай тары на працягу 1 года. Настойку верасу рыхтуюць наступным чынам: 10 г сухіх кветак і лісця заліваюць 1/2 шклянкі 70% -нага спірту і настойваюць у прахалодным цёмным месцы на працягу двух тыдняў, а затым працаджваюць.

Верас утрымоўвае шматлікія кіслоты, дубільныя рэчывы, крухмал, каратын, солі кальцыя, натрыю, калія, фосфару. Прэпараты з гэтай расліны супакойваюць нервовую сістэму. Чай з верасу дзейнічае як антысептычны і супрацьзапаленчы сродак. А рыхтуюць яго так: у шклянцы кіпеню чайную лыжку сухіх парасткаў настойваюць на працягу дзесяці хвілінаў і працаджваюць.

**Па-сапраўднаму карысны верас пры такіх хваробах, як неўроз, гастрыт, каліт, нястраўнасць, халецыстыт, прастатыт, атлусценне.**

У народнай медыцыне верас выкарыстоўваюць пры прастудах, бранхітах, рэўматызме, кашлі. Прызначаюць яго таксама пры нервовых расстройствах.

Адвар выкарыстоўваюць для ўмацавання валасоў, змешваючы яго з адварамі з каранёў лапуха і крапівы. Расліна валодае антыбактэрыйным, умераным гіпатэрмічным і гіпатэнзіўным дзеяннем, паскарае згусальнасць крыві, валодае заспакаяльным, патагонным і змякчальным уласцівасцямі.

У якасці супрацьнеўрознага сродку рыхтуюць настой травы верасу: 1 сталовую лыжку сухой, здробненай сыравіны заліваюць 2 шклянкамі кіпеню і настойваюць 2 гадзіны, пасля чаго працаджваюць і прымаюць па 1/2 шклянкі 4 разы ў дзень да ежы. Гэта ж сродак і ў такой жадазоўцы выкарыстоўваюць у якасці жоўцягоннага пры халецыстыце.

Пры захворваннях селязёнкі дапамагае настой лісця і кветак верасу: 2 сталовыя лыжкі сухой, здробненай сыравіны настойваюць у 2 шклянках кіпеню на працягу 2 гадзін, затым працаджваюць і прымаюць па 1/2 шклянкі 3 разы ў дзень да ежы. Гэты ж настой п'юць па 1/2 шклянкі 4 разы ў дзень да ежы пры энтэрыце, каліце з паносам і гастрыце з падвышанай кіслотнасцю. Пры кашлі, звязаным з прастудай, настой лісця і кветак прымаюць па 1/2 шклянкі 4 разы ў дзень да ежы. Гэтым жа складам палошчуць горла пры ангіне і танзіліце.

Пры пяску ў нырках аксалатнага і ўратнага паходжання п'юць настой лісця і кветак верасу па 2 шклянкі 4 разы ў дзень. Аналагічную дазоўку ўжываюць для лячэння запалення прадсталёвай залозы і атлусцення.

Пры падагры настой травы верасу можна ўжываць у выглядзе прыпарак і падрыхтоўкі ваннаў, яго таксама п'юць па 1/2 шклянкі 4 разы ў дзень да ежы.

Для прыёму мясцовых ваннаў пры хваробе суставаў з прычыны рэўматызму, радыкуліце, ударах і пераломах костак рыхтуюць настой травы наступным чынам: 3 сталовыя лыжкі сухой, здробненай сыравіны вытрымліваюць на працягу 2 гадзін у 1 літры кіпеню ў цёплым месцы.



**Дарэчы**:

Збор, які ўзмацняе мужчынскую патэнцыю.

Нармалізуе функцыю залоз унутранай сакрэцыі, здымае запаленне ўсіх органаў мочапалавой сістэмы. Дзейнічае ўзбуджальна, павялічвае тонус, ухіляе імпатэнцыю.

Збор складаецца з 17 траў.

**Склад збору:** трава торбачніку (ярутки), трава мядункі, трава верасу, трава гравілату, трава пятрушкі, трава свірэпкі, трава шабельніку, трава хвашчу, трава шалвеі, кветкі чартапалоху, парасткі размарыну, карані ляўзеі, карані аеру, карані саладкакораня, карані дзягіля, карані гарлачыка (кувшинки) жоўтага, карані араліі.

# На Сусветны Дзень Цвярозасці (6 кастрычніка) Мосар запрашае на святкаванне Юбілею Алеі Цвярозасці – 5-цігоддзе!



**Падтрымліваючы традыцыю, у першую суботу кастрычніка, калі ў 2007 годзе ўжо памерлы ксёндз Юозас Булька разам з прадстаўнікамі групаў Ананімных Алкаголікаў (АА) з Беларусі і замежжа заснавалі Алею Цвярозасці, кожны год праводзіцца ўрачысты Дзень Цвярозасці, а ў гэтым годзе прыпадае 5-ці годдзе Алеі Цвярозасці – маленькі Юбілей.**

У нашым касцёле ў кожную 2-ую нядзелю месяца, як і ў мінулым годзе ў Мосары, у 13:00 адбываецца малітва аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і нашага беларускага народу! Молімся ва ўсіх інтэнцыях, якія дасылаюць людзі, перад рэліквіямі святога Юстына.

З 2008 года Мосар таксама з'яўляецца Зонай Цвярозасці.

У 2010 годзе, у першую суботу кастрычніка, адбываліся канферэнцыі аб цвярозасці і была ўрачыста асвечана фігура Церпячага Хрыста на Алеі Цвярозасці. У 2011 годзе нават праходзіў у Глыбоцкім раёне Тыдзень Цвярозасці.

У гэтым 2012 годзе запрашаем усіх жадаючых 6 кастрычніка ў першую суботу, калі адзначаецца Сусветны дзень Цвярозасці, адзначыць Юбілей Алеі Цвярозасці ў Мосары. Урачыстая Літургія з Працэсіяй і святкаванне адбудзецца ў 18 гадзін.

Сардэчна ўсіх запрашаем на Урачыстасць!

***Вызвалім беларускі народ ад алкагольнага генацыду малітвай у Мосары!!!***

Падрабязная інфармацыя на сайце:
**http://mosar.vickyblog.com**
Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар, вул. Цэнтральная (касцёл). 211807 в. Мосар п/а Мосар Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць.
+ 375-33-676-1000.
E-mail: Mosarterra@gmail.com
Skype:Alexius230

# Неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў

**Шмат пытанняў паступае ад рыбаловаў з нагоды арэнды вадаёмаў і збірання платы за аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах.**

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах: **Карпінскае**, **Бярозаўскае** – арандатар фермерская гаспадарка «Карпікі», возера **Крывое** (у в. Бабруйшчына) – арандатар ТАА «Сервік», возера **Чачалі** – арандатар ПП «Аграбізнескансалт», возера **Свядава** – арандатар КФХ «Свідава», азёры **Гулідаўскае** – арандатар ТАА «Старт» Мінскага раёна, возера **Падавута** – арандатар КФХ «Падавуты» вадасховішча **«Азерцы»** – арандатар Дзяржаўнае прадпрыемства «Азерцы», выкарыстанне плаўсродкаў на вадасховішчы забаронена.

На ўказаных вадаёмах рыбаловам-аматарам, усім без выключэння, у тым ліку і мясцовым жыхарам, неабходна набываць пуцёўку на платнае аматарскае рыбалоўства, для мясцовых - бясплатныя пуцёўкі. У выпадку адсутнасці пуцёўкі або адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаецца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», г.зн., здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства). Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асобаў арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязанымі да выканання рыбаловамі, таму просім быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

Набыць пуцёўкі можна: возера Чачалі, база адпачынку «Чачалі» – кругласутачна, азёры Карпінскае і Бярозаўскае - пры асабістым абыходзе арандатара вадаёмаў, возера Крывое, на базе адпачынку – кругласутачна, возера Свядава – пост аховы з боку аўтатрасы Глыбокае-Полацк, вадасховішча «Азерцы», азёры Гулідаўскае, возера Падавута пры абыходзе прадстаўнікамі арандатараў. Указанымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выкананы неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі і іншых кантралюючых органаў патрабаванні да аказваемага пераліку паслуг арандатарамі будуць яшчэ больш жорсткім, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў. Сёлета зарыбленне вадаёмаў праведзенана: на возеры Чачалі – карп, азёры Карпінскае і Бярозаўскае – карась, белы амур, таўсталобік. Астатнія арандатары будуць праводзіць зарыбленне ў кастрычніку 2012 года – шчупак, карась, карп, сом, судак. У выпадку невыканання патрабаванняў па зарыбленні вадаёмаў арандатарамі азёр, міжрайінспекцыяй будзе вынесена пытанне пра выманне вадаёмаў з арэнды.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі па ўказаных тэлефонах.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*



## Віншаванкі

*Валерыя Барысаўна Казлова*

**Ад усёй душы віншуем з юбілеем!**
**Жадаем здароўя, удачы, даўгалецця. Заставайся і далей такім жа маладым, дзелавым, энергічным, чуллівым і ўважлівым да людзей.**

Пусть годы проходят, не надо грустить,
Ведь сколько отпущено – надо прожить.
И счастье бывало, бывала и грусть.
Из жизни не вычеркнуть пройденный путь.

*Вашы сябры.*

## МНС інфармуе
**на 18.09.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 838;
Гібель людзей – 102, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 467.28 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 36;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 260 650 000 руб.

